ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы



*Свабода, роўнасць, братэрства!*

# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ●№ 12 (68) ●Суббота, 9 кастрычніка 1999 г. ● У розніцу кошт 15000 руб.

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ТРЫМАЮЦЦА НА ҐОЛЫМ ЭНТУЗІАЗМЕ

1 кастрычніка краіна адзначала Міжнародны дзень пажылых людзей. Агітбрыгада Трасцінскага сельсавета Хоцімскага раёну на чале з сакратаром Савета Тамарай Корневай актыўна ўключылася ў работу па аказанню маральнай падтрымкі пенсіянераў пад дэвізам "Па шляху да грамадства для ўсіх узростаў". І напярэдадні 1 кастрычніка, і пасля гэтай даты, у Міжнародны год пажылых людзей энтузіасты дабрачыннай справы пабывалі ў аддаленых і маленькіх вёсках сельсавета, дзе арганізоўвалі вечары адпачынку, віншавалі там са святам ветэранаў, гаварылі ім цёплыя словы і радавалі добрымі канцэртамі.

Хто ж яны, гэтыя энтузіясты? Гэта, апроч ужо названай Тамары Корневай, Ірына Нікіценка, дырэктар Трасцінскага сельскага Дома Культуры, вядучая канцэртнай праграмы, Уладзімір Пацеенка, мастацкі кіраўнік гэтай установы, Уладзімір Белікаў, музычны акампаняятар, Алена Кажанкова, загадчыца сельскага клуба ў вёсцы Будачка, Галя Лугаўцова, інспектар аддзела кадраў саўгаса "Трасціно", Люба Кляцова, загадчыца Трасцінскай сельскай бібліятэкі, Інна Белікава, загадчыца Маркаўскай сельскай бібліятэкі, Тамара Літарная, загадчыца ФАП у вёсцы Будачка і Наталля Пахомава, работніца дзіцячага садка.

Здзіўляе той факт, што маладым энтузіястам не аказалі аніякай падтрымкі і дапамогі мясцовы саўгас і тутэйшыя фермеры і камерсанты. Агітбрыгадзе не далі ні капейчыны і нават транспарту не выдзелілі. Прыходзілася ім за 3 і нават 5, а то і больш кіламетраў на кані (у лепшым выпадку) і пешшу несці ў торбах за плячыма музычныя інструменты і іншую атрыбутыку калектыву мастацкай самадзейнасці.

— Дзейнасць нашага калектыву трымаецца выключна на энтузіязме, — гаворыць Тамара Аляксееўна, — З песнямі пад гармонік крочым па прасёлачных дарогах ад вёскі да вёскі з торбамі ў руках ці за плячыма. І радуемся, што паўсюдна нас цёпла і па сяброўску страчаюць пажылыя людзі, дзякуюць за маральную падтрымку іх і асалоду адпачынку. Запрашаюць і надалей наведвацца да іх.

А як было б добра на вечары адпачынку арганізаваць для ветэранаў і хоць небагаты стол — з цукеркамі, пячэннем, гарбатай, кавай. Бо гэтыя ж людзі ўсё жыццё адпрацавалі на мясцовых палях і фермах, ці ў тутэйшых школах настаўнікамі, а зараз жывуць на жабрацкую пенсію. Але сучасныя кіраўнікі пра гэта забыліся...

**(Наш кар.).**
**Хоцімскі раён**

### І Ў ДРЭННЫМ ГОДЗЕ ЁСЦЬ ДОБРАЕ

Цяжкім выдаўся сёлета летні пашавы перыяд утрымання жывёлы. І ўсё ж ёсць неблагія факты. Па дадзеных раённага аддзела статыстыкі больш, чым у іншых гаспадарках, вытварылі і рэалізавалі мяса дзяржаве з пачатку года жывёлаводы калгаса "Сасноўка" — адпаведна 492 і 526 тон. А вось малака надаілі больш за ўсіх у племзаводзе "Ціманава" — 1382 тоны. Дзяржаве прададзена яго больш за 1000 тон.

Свініны больш усіх прадаў калгас "Сасноўка" — 463 тоны, мяса птушынага — птушкафабрыка "Клімавіцкая" — 142 тоны.

**І.ЛАПО,**
**г. Клімавічы.**

### СЛЕДСТВА ПА СПРАВЕ М.ЧЫГІРА ЗАВЕРШАНА

У рэзалюцыі па справе экс-прем'ера Міхаіла Чыгіра, па словах яго жонкі і адваката Юліі Чыгір, знятыя абвінавачванні Чыгіра ў крадзяжы. Цяпер ён абвінавачваецца толькі ў службовых злачынствах: перавышэнні службовых паўнамоцтваў і халатнасць, праяўленую пад час выдачы трох непагашаных крэдытаў, выдадзеных "Белаграпрамбанкам", якім кіраваў Міхаіл Чыгір, а таксама прадастаўленне Кабінетам Міністраў адтэрміноўкі на 6 месяцаў фірме "Піаск" па ўплаце мытных пошлін, калі ён працаваў прэм'ер-міністрам.

За гэтыя вось злачынствы суд і вызначыць меру пакарання.

**В.КАЛІНОЎСКІ.**

### ПАРТЫЯ БНФ "АДРАДЖЭННЕ" МЯНЯЕ НАЗВУ І ПРЫНЯЛА ПРАГРАМУ

26 верасня адбыўся чарговы IV з'езд партыі БНФ. Ён зацвердзіў праграму партыі (дарэчы, дагэтуль партыя БНФ дзейнічала без праграмы), прыняў папраўкі і дадаткі ў Статут і скарэктаваў назву партыі. Пасля зацверджэння ў Мін'юсце папраўак і дадаткаў Статута партыі, яна будзе называцца "Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — Беларускі Народны Фронт". Скарочана — КХП-БНФ.

Абрана кіраўніцтва Партыі. Яе старшынёй абраны Зянон Пазняк. Намеснікамі старшыні абраны Мікола Анцыповіч, кандыдат філасофскіх навук, выкладчык Беларускай політэхнічнай акадэміі, Юрась Беленькі, эканаміст, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, Сяргей Папкоў, спецыяліст па вылічальнай тэхніцы, дэпутат ВС 12-га склікання і Уладзімір Старчанка, дацэнт Гомельскага Дзяржаўнага універсітэта.

Абраны Сойм у складзе з 45 сяброў, 25 з якіх — прадстаўнікі буйных гарадоў і ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

Пасля з'езду адразу ж адбыўся Сойм Партыі, на якім абрана Управа Сойму ў колькасці 25 чалавек і сакратары Управы: адказны сакратар Анатоль Крыварот, сакратары Віктар Каролік, кандыдат тэхнічных навук, Улад Раманцоў, фінансіст і Алесь Чахольскі.

На з'ездзе прысутнічалі 140 дэлегатаў, што складае больш 2/3 ад зарэгістраваных дэлегатаў партыі 31 ліпеня — 1 жніўня на першай сесіі шостага з'езду БНФ "Адраджэнне" (іх было 207). Згодна са статутам партыі з'езд быў паўнамоцным для прыняцця рашэнняў.

**С.ПАПКОЎ.**

### ПАСТАЎШЧЫКІ НАРКОТЫКАЎ У БЕЛАРУСЬ — ЦЫГАНЫ І КАЎКАЗЦЫ

Яшчэ не так даўно лічылася, што на Беларусі няма наркаманіі і наркаманаў. Зараз жа гэтае зло захапіла і нашу краіну.

На працягу апошніх 5 гадоў назіраецца сталы рост патоку наркатычных рэчываў з-за мяжы. Толькі колькасць выяўленых наркагандляроў, што не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі, павялічылася на 36 працэнтаў. Актыўнымі распаўсюджвальнікамі наркотыкаў з'яўляюцца асобы "каўказскай нацыянальнасці" і цыганы. Прычым яны завозяць такія "цяжкія" рэчывы, як гераін, какаін ды LSD, залежнасць ад якіх узнікае ўжо пасля 2-3 прыёмаў. Гэта не тое, што нашы айчынныя вырабы з маку ці канапель.

Асноўнай часткай (да 70%) беларускіх наркаманаў з'яўляюцца моладзь ад 18 да 20-гадовага ўзросту. Прычым чвэрць з іх —жанчыны.

**С.ГРЫБ.**

### ПРЭЗІДЭНТ ГАВОРЫЦЬ ЛЮДЗЯМ

"Мяне ў Баранавічах не чакалі, часу навесці глянец не было. Ды і пусціць мне пыл у вочы, паверце, цяжка"...

"Трэба пераджыць гэты цяжкі год. Хоць праблем, якія можна было б назваць страшнымі, у нас няма. Тое, чаго не хапае, закупім за мяжой. Народ галадаць не будзе"...

**А.ЛУКАШЭНКА,**
**г. Баранавічы, 29 верасня.**

"Хто хоча лепш жыць, той і жыве лепш"...

"Мы возьмемся вельмі сур'ёзна за навядзенне дысцыпліны"...

"Мы спрабуем знайсці падыходы для таго, каб аказаць падтрымку работнікам аховы здароўя, адукацыі і іншых сацыяльных сфер. Мы дамовіліся аб тым, што павінны тэрмінова прыкласці намаганні і ўкласці вялікія сродкі ў медыцынскія ўстановы"...

"Вы проста не пазнаеце праз тры гады нашы лячэбныя ўстановы".

**А.ЛУКАШЭНКА, г. Мінск.**
**Радзільны дом N 2,**
**30 верасня.**

### ЛЮДЗІ ГАВОРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТУ Ў АДКАЗ

**З Баранавіч:**

— Сапраўды, вас не чакалі, бо ніхто не запрашаў.

**Пятрок Працько**

— Не хвалюйцеся, пераджывем, нас да гэтага ўсё жыццё прывучаюць, Вы не першы. Але дай Бог, каб быў апошнім.

**Сяржук Багамазаў**

**З Мінска:**

— Я вельмі хачу жыць лепш, толькі чамусьці пяты год запар жыву ўсё горш і горш. Штосьці не ладна ў Вашай філасофіі.

**Улад Дуброўскі**

— Вы ўжо пяць гадоў спрабуеце. А было б лепш, каб рабілі.

**Сымон Кругляк**

— Мы ўжо і зараз іх не пазнаём: ні чулых, як раней, адносін, ні лекаў няма для хворых.

**Яніна Храмцова.**

### РАДЫЁПЕРАХВАТ

Белы Дом аб'явіў, што прэзідэнт Клінтан плануе прысутнічаць на нарадзе арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая будзе праведзена ў Стамбуле ў лістападзе.

* * *

Іран выказаў гатоўнасць дапамагчы Расіі ў вырашэнні Дагестанскага крызісу. Іранскі амбасадар у Маскве на сустрэчы з Расійскім міністрам замежных спраў Ігарам Івановым сказаў, што яго ўрад можа прадаставіць Расіі звесткі аб тэрарыстычных арганізацыях.

**Голас Амерыкі.**



*Дружная сям'я з Крычава.*

**Фота В.БЫСАВА**

### Паважаныя падпісчыкі і чытачы!

23 верасня рэдакцыя атрымала такі вось ліст:

*"Здравствуйте, уважаемая газета "Беларускі Усход". Меня зовут Кокашинская Наташа Петровна. Мне 17 лет и я живу в д. Судилы. Мне бы хотелось через вашу газету поздравить своего брата Романа с днем рождения.*

*Газету вашу выписываем недавно, но она нам понравилась, только идет нерегулярно. А так материалы у вас интересные.*

*Большое спасибо за внимание. Поздравьте пожалуйста, брата с дрем рождения".*

**Рэдакцыя просіць прабачэння ў Наташы і ва ўсіх падпісчыкаў "Беларускага Усходу"** за вымушаны перапынак у выхадзе з друку нашай газеты пасля 10 верасня. Нам непрыемна і сорамна перад Вамі. І мы запэўніваем Вас, усіх нашых падпісчыкаў, што патрачаныя вамі грошы на падпіску не згінулі. Тую колькасць нумароў газеты, за якую вы заплацілі, Вы атрымаеце! З наступнага нумару мы будзем выпускаць па 2 нумары на тыдзень (здвоеныя нумары) да тае пары, пакуль з Вамі разлічымся.

Яшчэ раз шчыра просім прабачэння.

### ВІНШАВАННЕ

**Віншую з днём нараджэння свайго брата Какашынскага Рамана, якому споўнілася 15 гадоў. Жадаю яму шчасця, здароўя.**

**Сястра Наташа.**

**Аб'ява**

Предлагаем в/о работу на дому (250 У.Е.): доступна всем! Вложите 2 конверта (один с о/а) + купон б/о. 220089, Минск-89, а/я 122.

Зянон ПАЗЬНЯК

# ПАЛІТЫКА ПАРТЫІ АДРАДЖЭНЬНЯ

## (Даклад на IV Зьезд Партыі БНФ)

Паважаныя спадарыні і спадары, шаноўныя фронтаўцы — сябры Партыі БНФ, госьці Зьезду. Вітаю вас у Бацькаўшчыне, якая скора будзе свабоднай!

Тая барацьба, што адбываецца ў Беларусі на працягу апошніх 10-ці гадоў, гэта ёсьць змаганьне за адраджэньне Беларускай ідэі, за існаваньне беларускай нацыі, за сьцьвярджэньне незалежнай беларускай дзяржавы. У гэтым сутнасьць. Усё астатняе альбо выяўляе гэтую сутнасьць, альбо супроцьпастаўляецца ёй.

Беларускі нацыянальна-вызвольны рух ёсьць дэмакратычны рух і па сваіх ідэях, і па рухаючых сілах. Але істотна ўбачыць, што ворагі беларушчыны ствараюць дэмакратычныя фантомы і імкнуцца ізаляваць нацыянальна-вызвольны рух у асобную сфэру палітыкі, а потым сьпіхнуць на пэрыферыю і — ліквідаваць.

Гэта не ўдавалася і немагчыма было зрабіць да апошняга часу, пакуль не ўсталявалася дыктатура і не падзялілася ўладная наменклатура, не стварылася наменклатурная апазіцыя. Пачаўся працэс узаемадзеяньня і дыферэнцыяцыі, як у асяроддзі наменклатурных апазіцыянэраў, так і ў асяроддзі БНФ.

Пераход наменклатурных апазіцыянэраў на беларускую нацыянальна-вызвольную платформу меў дэкларацыйны *характар*. Толькі некалькі чалавек наблізіліся да адраджэнскага разуменьня і адстойваньня беларускіх нацыянальных задачаў. Астатнія — засталіся ў палоне старой каланіяльнай ідэалогіі і чужародных поглядаў на галоўныя каштоўнасьці нацыі.

Тым часам у асяроддзі БНФ працэсы канвергенцыі набылі разбуральныя рысы, узмацніўся канфармізм, скрыты і адкрыты пераход на платформу наменклатурна-дэмакратычнай апазіцыі, *пад лозунг "объединения демократических сил"*, сэнс якога — у падпарадкаваньні Народнага Фронту палітыцы каланіяльнай апазіцыі, у выкарыстаньні структурнай сілы БНФ для зьмены дзяржаўнага кіраўніцтва і вяртаньня да ўлады наменклатурных апазіцыянэраў коштам (ці прынясеньнем у ахвяру) прынцыпаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Ідэя і арганізацыя Беларускага вызвольнага руху была затарможаная не настолькі звонку, колькі ўнутры, у кіраўніцтве БНФ. І гэта было непасрэдным вынікам канвергенцыі, беспрынцыпнага супрацоўніцтва з каланіяльнай апазыцыяй, ростам канфармізму і пераарыентацыяй каштоўнасьцяў.

Нарыў лопнуў у траўні гэтага году, пасьля праваłу правакацыі з фальсыфікацыяй галасаваньня на выбарах Прэзідэнта. Тут і адчынілася бездань, перад якой стаяў Фронт, выявілася цана супрацоўніцтва з каланіяльнай наменклатурай. Менавіта тут адбыўся маральны выбар і рэальны падзел у арыентацыі палітычных каштоўнасьцяў.

Травеньскія выбары Прэзідэнта яскрава паказалі рознасьць шляхоў у Фронце і залежнасьць выніку ад выбару шляху.

Падзел адбыўся. Падзел існуе. Наша задача — захаваць, сабраць і злучыць усе здаровыя беларускія адраджэнскія сілы Фронту.

* * *

У гісторыі БНФ, на які ўвесь час градам сыпаліся каменьні непрыяцеляў Беларусі, мы ўжо перажывалі магутны стрэс, які адбіўся на нашых структурах. Гэта было ў канцы 1990 года, яшчэ за часы непадзельнага панаваньня КПСС і КГБ. Тады, 7 лістапада, у дзень юбілею камуністычнага перавароту, Беларускі Народны Фронт арганізаваў першую ў СССР грандыёзную антыкамуністычную дэманстрацыю ў Менску. Звыш 30 тысячаў фронтаўцаў і прыхільнікаў Фронту прайшлі калонай праз увесь праспект Леніна з антыкамуністычнымі лозунгамі, скандуючы: "Далоў камунізм! Далоў КПСС" Далоў Савецкі Саюз!"

Але камунізм яшчэ трымаўся. Такой прапагандысцкай істэрыкі супраць БНФ, такога татальнага напору, такога шаленства і псіхозу супраць нас я не памятаю за ўсю гісторыю Фронта.

І здавалася, што Фронт "пасыпаўся", пачалі выходзіць зь яго шэрагаў розныя "дэмакратычныя камуністы", барацьбіты за перабудову і сацыялістычную справядлівасьць, змагары за Леніна супраць Сталіна, за дэмакратыю ў СССР і проста выпадковыя людзі, сярод якіх *нават* савецкі прафэсар Акулаў быў прыхільнікам БНФ і разносіў ушчэнт намэнклатуру КПСС. "Гэта памылка, — крычалі мне ў вочы" — Пазьняк разбурае Фронт! Гэта правал! Ня трэба было такой дэманстрацыі!"

У сакавіку 1991 года на 2-м Зьезьдзе БНФ я казаў, што гэта не памылка і не паражэньне, а найвялікшая перамога, якая ўвойдзе ў гісторыю барацьбы з камуністычнай уладай і ўмацуе Беларускі Народны Фронт.

Так яно і сталася: сплылі "*дэмакраты за перабудову*", *спадарожнікі* і змагары за паляпшэньне сацыялізму. Прыйшлі новыя сьведамыя людзі, антыкамуністы. Беларускі Народны Фронт палітычна кансалідаваўся і сапраўды стаў беларускім нацыянальна-дэмакратычным рухам.

Нешта падобнае мы назіраем цяпер. Настаў момант ісьціны, момант выбару. Трэба прыняць яго з розумам, і згуртаваць вакол Партыі БНФ усё здаровае, моцнае і дзеяздольнае, каб гэты выбар стаў чыньнікам сілы нашай Партыі і *грунтам для ўмацаваньня Беларускага Народнага Фронту*. Умацаваная Партыя БНФ павінна стаць палітычнай асноваЙ Фронту, якая злучыць вакол сябе і прыцягне ў свае шэрагі беларускія адраджэнскія сілы. Наша апірышча — гэта тыя паўтара-два мільёны сьведамых беларусаў, якія вераць Фронту і Беларускай ідэі. І мы ня можам не апраўдаць іх давер. Беларуская нацыянальная ідэя вымагае ня толькі шырокага вызвольнага руху, але і моцнай палітычнай арганізацыі.

Як будзе выглядаць умацаваная сістэма БНФ, мы вырашым на 2-м паседжаньні VI-га Зьезду Фронта, дзе нам засталося выбраць Сойм і намесьнікаў старшыні.

* * *

Сябрам Партыі БНФ прапанавана разгледзець папраўкі і дадаткі ў Статут.

Партыя БНФ выступае за добрае ўладкаваньне грамадства на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, за культурна-нацыянальнае адраджэньне беларускай нацыі, за разьвіцьцё беларускай культуры ды культуры ўсіх нацыянальных меншыняў Беларусі.

Галоўная мэта Партыі БНФ — усталяваньне дэмакратычнага грамадства і пабудова моцнай беларускай дзяржавы.

Мы асабліва падкрэсьліваем нашу сувязь, пераемнасьць і адзінства зь Беларускім Народным Фронтам, адзначаем, што Партыя БНФ увасабляе палітычную лінію Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", ажыцьцяўляе палітычныя палажэньні Праграмы БНФ і зьяўляецца ягонай ідэйнай, палітычнай і арганізацыйнай самастойнай асновай. Партыя БНФ прызнае за сабой усю гісторыю Беларускага Народнага Фронта і бярэ на сябе адказнасьць за ўсю ягоную палітыку, усю дзейнасьць і дакуманты, ад пачатку існаваньня БНФ. У выпадку спыненьня дзейнасьці БНФ, зьяўляецца ягонай пераемніцай.

Дбаючы пра пабудову дэмакратычнага грамадства і моцнай беларускай дзяржавы, мы шануем духоўныя, культурныя і звычаёвыя каштоўнасьці, створаныя беларускім народам. Асоба павінна быць ня толькі свабоднай, але і маральнай, грамадства — ня толькі вольным, але і праўным, дзе кожны чалавек мае праўныя гарантыі прымяніць свае здольнасьці і карыстаць з сваёй працы, дзе права стварае магчымасьці рэалізаваць шансы кожнаму, нават нямогламу, дзе няма лішніх людзей.

Мяркую, што мы павінны, нарэшце, удакладніць назву сваёй партыі, згодна той вялікай нішы, якую мы займаем, і кансалідавацца ў беларускі і еўрапейскі палітычны працэс.

*Па сваёй палітычнай платформе* мы ёсьць беларуская народная (адраджэнская) партыя кансэрватыўнага кшталту. Умацоўваючы Партыю Фронта, мы павінны ў назве канкрэтызаваць яе палітычную сутнасьць. Прапанаванае ўдакладненьне назвы: "Кансэрватыўная партыя — Беларускі Народны Фронт", — на мой погляд, добра выяўляе зьмест ідэалогіі, палітычную шкалу каштоўнасьцяў, палітычную нішу і гістарычную прыналежнасьць партыі.

Заканчваючы гаворку пра дадаткі ў Статут, хачу адзначыць дзьве важныя пазіцыі: у Партыі прадугледжана фактычная двухузроўневая структура функцыянаваньня. Гэта суполкі і раённыя арганізацыі суполак з аднаго боку, і непасрэдна кіраўніцтва Партыі (старшыня, Сойм і Управа) — з другога. Спаўняючы заканадаўства, мы прадугледзелі і прамежкавы (бюракратычны) узровень. Гэта рэгіянальныя (у тым ліку і абласныя) арганізацыі. Але яны валодаюць толькі каардынацыйнымі функцыямі. Гэта дапаможа нам актывізаваць *дзейнасьць Партыі і адначасна* пазьбегнуць яе бюракратызацыі ў трэцім прамежкавым (абласным) зьвяне.

Другая важная пазіцыя датычыць палітычнай эфектыўнасьці і кіруемасьці Партыі і заключаецца ў тым, што ў перыяд выбараў кіраўніцтва краіны і ў органы ўлады Беларускі Сойм Партыі БНФ (калі Партыя ўдзельнічае ў выбарах) валодае функцыямі непасрэднага цэнтральнага кіраваньня: можа прымаць рашэньні па кожным сябры Партыі (выключэньне з арганізацыі, наданьне і пазбаўленьне паўнамоцтваў і інш.).

Такое палажэньне дасьць магчымасьць запабегчы авантурызму і некіруемасьці ў час выбараў, пранікненьню ў Партыю чужародных асобаў з мэтай стаць дэпутатамі і г.д. БНФ ужо мае такі негатыўны вопыт. Трэба выключыць яго паўтарэньне.

* * *

Да ўвагі дэлегатаў Зьезду прапанаваныя праект Праграмы Партыі БНФ і кароткі праект Першачарговай Праграмы альбо Праграмы-мінімум.

Праект агульнай Праграмы Партыі БНФ падрыхтаваны на аснове Праграмы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", прынятай на III-м Зьезьдзе БНФ 30 траўня 1993 года. Скарыстаная яе структура, тэкст і асноўныя палажэньні, выпрабаваныя гісторыяй, часам і практыкай палітычнае працы.

Асаблівая ўвага зьвернутая на галоўныя каштоўнасьці Партыі, на правы асобы, ролю беларускай сям'і, школы, мовы і культуры, на канстытуцыйныя прававыя прынцыпы дзяржаўнага ладу, на пабудову добрай эканомікі, на гарантыі незалежнасьці і дзяржаўнай бясьпекі Беларусі, на вектары зьнешняй палітыкі.

У праекце Праграмы-мінімум адзначаны тры галоўныя палажэньні як акцэнты і арыентыры нашай першачарговай палітыкі. Першае — неабходнасьць ліквідацыі дыктатуры і спыненьне палітыкі "інтэграцыі" з Расеяй. Другое — першачарговыя палітычныя дзеяньні пасьля ліквідацыі дыктатуры, дзе коратка раскрыты іх зьмест. І трэцяе — дастаткова падрабязна апісаны парадак першасных эканамічных пераўтварэньняў як надзвычай важны этап у палітыцы Партыі, ад якога будзе залежыць далейшы ход дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі.

Усе палажэньні, прапанаваныя ў абодвух Праграмных праектах, дастаткова выверaныя і апрабаваныя ў ранейшых дакументах і дакумэнтальнай практыцы Беларускага Народнага Фронту.

* * *

Мы павінны будзем будаваць нашу палітыку, абапіраючыся на Праграмныя палажэньні. Аднак шмат залежыць таксама ад добрага аналізу і дакладнага разуменьня канкрэтнай сітуацыі ў Беларусі. Сябры Партыі мусяць прыглядацца да падзеяў, аналізаваць іх і друкаваць свае абагульненьні. Адразу пасьля Зьезьду мы павінны арганізаваць выданьне партыйнага бюлетэню, на старонках якога сябры БНФ маглі б абменьвацца тэарэтычнымі меркаваньнямі і інфармацыяй.

Сапраўды, самай неабходнай *задачай нацыянальна-вызвольнага* руху на шляху адбудовы незалежнай беларускай дзяржавы зьяўляецца замена старой каланіяльнай адміністрацыі на новую беларускую, якая будзе кіравацца нацыянальнай сьведамасьцю і зыходзіць зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Пакуль гэта ня зроблена — ня будзе і беларускай палітыкі. Лукашэнкаўскі антыбеларускі рэжым, яго каланіяльная адміністрацыя і яго каланіяльная апазіцыя (тыя, што апынуліся за бартом улады) ўўляюць адну сістэму, адзін двух*полюсны механізм, ад перамены* бакоў якога нічога ў корані ня зьменіцца на Беларусі.

Тое ж самае і з друкам. І афіцыйны каланіяльны друк па-руску, і так званы апазіцыйны (ці незалежны) каланіяльны друк па-руску ёсьць два бакі аднoй сістэмы інфармацыі (дакладней — дэзынфармацыі), Адраджэнская Партыя БНФ мусіць добра арыентавацца ў гэтым становішчы.

Мы павінны зрабіць захады, каб ліквідаваць (ці хаця б абмежаваць) разбуральны ўплыў рэсурсных цэнтраў НДА на беларускія палітычныя арганізацыі. Ніхто ня можа дыктаваць нам свае погляды і паводзіны, аплочаныя далярамі, ніхто ня будзе заказваць палітыку, бо ў нас ёсьць свая, беларуская палітыка, ёсьць маральныя прынцыпы і беларускія ідэалы, якімі не гандлююць ні пры якіх абставінах, і дзеля перамогі якіх патрэбныя ня грошы, а вера ў Беларусь, чыстае сумленьне і гарачае сэрца. Калі гэтага няма — грошы не ўратуюць, даляры не дапамогуць, бо тады не купляюць, а прадаюцца.

Ня верце людзям, якія пасьмейваюцца над ідэаламі. У палітыцы, калі пытаньне ставіцца рубам, — перамагае дух.

* * *

Адразу пасьля Зьезду нашай Партыі трэба будзе ўпарадкаваць *структуру і арганізацыі*. Неабходна спыніць пасьлабленьне Фронту і прывесьці ўсё ў статутны парадак. Арганізацыі Партыі БНФ павінны быць створаныя паўсюдна.

Трэба арганізаваць надпартыйныя агульнаграмадзянскія органы з прыкметамі легітымнасьці і магчымасьцямі прадстаўнічай, выканаўчай і самакіруючай улады. Менавіта: камітэты самакіраваньня і галоўнае — Грамадзянскі Парламент як грамадзкае дапаўненьне да існуючай легальнай дэпутацкай групы Вярхоўнага Савета, як падтрымка выконваючаму абавязкі Прэзыдэнта Беларусі і як самастойны чыньнік палітыкі.

*Зглумленьне ідэі Грамадзянскага Парламенту Беларусі і акцыі Грамадзянства БНФ* ёсьць самай дрэннай справай, якую зрабілі праціўнікі фронтаўскай палітыкі. Акцыя Грамадзянства БНР давала нам адраджэнскі грунт для папаўненьня Фронту і новыя магчымасьці адраджэнскай працы, а ў выніку — пэспектыву беларускай грамадзкай мабілізацыі. Я ўражаны зрывам гэтай акцыі людзьмі, якія гавораць пра Беларусь.

Нічога сур'ёзнага ня робіцца наскокам, махаючы драўлянай шабелькай.

Цяпер некаторыя дэмакраты "новай волі" лёгкадумна пачынаюць клікаць людзей на вуліцу на 100-тысячны мітынг. Дзеля чаго? Каб ізноў пакрычаць "далоў Лукашэнку" і разыйсьціся з усьведамленьнем апатыі і нікчэмнасьці апазіцыі? Гэта гапонаўшчына, правакацыя, бяздумнасьць і хлестакоўшчына ў кароткіх портачках, а не сур'ёзны падыход.

Партыя БНФ мусіць прыступіць да сур'ёзнай працы з падвойнай аддачай. Сітуацыя мусіць быць пераменена яшчэ ў гэтым годзе. Такія магчымасьці ёсьць, калі не займацца ерундой ды "объединением демократических сил", а рыхтаваць рэальныя арганізацыі і рэальных людзей.

* * *

На VI Зьезьдзе БНФ 31-га ліпеня была зачытаная мая кароткая справаздача пра дзейнасьць за мяжой за апошнія два гады. Няма сэнсу яе паўтараць. Аднак я хацеў бы закрануць адзін далікатны аспект, які выклікае ў мяне шмат горычы і шкадаваньня, хоць мне і нязручна пра тое казаць.

У 1996 годзе, апынуўшыся з Сяргеем Навумчыкам за мяжой, мы ўбачылі, што Беларусь была ўжо ціха здадзена Захадам Маскве. Воляй лёсу і вялікімі высілкамі нам удалося адвесьці стрэлкі назад, яшчэ, калі мы знаходзіліся ў Эўропе, а ў Амерыцы, зноў жа — воляй лёсу і вялікімі намаганьнямі як за мяжой, так і ў Беларусі (і, як я лічу, — проста Боскай воляй) удалося дамагчыся, што міжнародная супольнасьць не прызнала легальнасьці вынікаў лістападаўскага рэферэндуму 1996 года на Беларусі, а рэжым Лукашэнкі трапіў у ізаляцыю.

Чаму была магчымасьць уплываць? Таму што быў пэўны аўтарытэт, добрае імя і міжнародная вядомасьць. Усе дзьверы адчыняліся, і на высокім узроўні. Ніякай падтрымкі гэтаму добраму імю не было зь Беларусі. Наадварот. Гаворачы "наадварот", я маю на ўвазе не КГБ, не расейскія спецслужбы, не хартыі і не агентуру, што моцна папрацавала супраць мяне на Захадзе. Я маю на ўвазе тых, хто мусіў бы мяне падтрымаць. Бо Фронт, як апазыцыйная арганізацыя, атрымаў у сувязі з маёй вымушанай эміграцыяй унікальныя палітычныя магчымасьці раскруткі сітуацыі. Аднак "раскрутка" была са знакам мінус.

Узмацняючы Партыю БНФ і дбаючы пра адзінства Фронту, *азіраючыся назад і аналізуючы* пройдзены шлях, мы ня шмат знойдзем памылак (я б сказаў, зусім ня шмат), бо памыляюцца ў палітыцы ня так ужо і часта. У палітыцы найбольш — нескарыстоўваюць магчымасьці. Гэта галоўны недахоп. Уменьне ж скарыстаць, зрабіць тое, што трэба ў неабходны час, у патрэбным месцы і ў неабходнай сітуацыі — гэта і ёсьць добрая палітыка, я б сказаў нават — таленавітая палітыка.

Зычу ўсім нам, дарагія сябры, добрай палітыкі ў добры час і на сваім месцы дзеля шчасьця, свабоды і славы нашай дарагой Бацькаўшчыны.

**Жыве Беларусь!**
**Жыве вечна!**

